# Яшчэ адна кнігарня

У Гомелі ў першыя дні новага года на галоўнай магістралі горада — праспекце імя Леніна адкрыт новы кніжны магазін. Доступ да паліц з літаратурай свабодны. Ёсць аддзелы літаратуры мастацкай, палітычнай, тэхнічнай, сельскагаспадарчай, дзіцячай, медыцынскай, падпісных выданняў, прадукцыі выяўленчага мастацтва, літаратуры па мастацтву, музыцы. Спецыяльны аддзел займаецца пазамагазінным гандлем літаратурай. Арганізаваны прыём папярэдніх заказаў на кнігі, якія выйдуць у свет у гэтым годзе.

Новы кніжны магазін ужо наведалі многія пакупнікі. Рэдка хто выходзіў адсюль без кніжкі ў руках. Новыя кнігі набылі дырэктар 25-й сярэдняй школы Д. Пятрэнка, урач Н. Міранос, станцыйны дыспетчар Я. Казачэнка, рабочы завода «Гомсельмаш» Л. Будзель, правадніца пасажырскіх вагонаў М. Клакоцкая і іншыя гамяльчане. Выбар літаратуры ў магазіне надзвычай вялікі. На паліцах і ў падсобных памяшканнях — 500 тысяч кніг па ўсіх галінах ведаў. Запланаваны гадавы абарот магазіна — 350 тысяч рублёў.

На працу ў новую кнігарню накіраваны лепшыя работнікі кніжнага прылаўка — выпускніца Ленінградскага тэхнікума кніжнага гандлю Галіна Лапунова, Елізавета Песіна і інш. Аддзел пазамагазіннага гандлю новай кнігарні мае 20 кніганошаў і 10 столікаў па продажу літаратуры ў прадуктовых і прамтаварных магазінах горада, некалькі кіёскаў на прадпрыемствах.

Ул. ТАНАНА,
В. СЯМЁНАЎ.



**На здымку:** у аддзеле тэхнічнай літаратуры магазіна. Злева — прадавец Зінаіда **Драбышэўская.**

Фота **Ф. Раманава.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## Пісьмы ў рэдакцыю

# Захаваць помнік, стварыць музей

У Навагрудскім доме-музеі Адама Міцкевіча наведвальнікі, асабліва прыезджыя, падоўгу затрымліваюцца ля фатаграфіі выдатнага архітэктурнага помніка. Ім здаецца, што недзе яны бачылі гэты будынак. Наведвальнікі не памыляюцца. Яны выходзяць з музея, перасякаюць плошчу... І вось ён — гэты касцёл, моцна пашкоджаны часам.

Даўно не ходзяць сюды веруючыя. Ужо многа год памяшканне касцёла выкарыстоўваецца як гаспадарчае. Робіцца прыкра: чаму выдатны архітэктурны помнік не ўзяты на захаванне?

Зайдзіце ў касцёл — і вы ўбачыце скульптуры ў нішах, цудоўнае архітэктурнае аздабленне. Гэта — творчасць вядомых беларускіх і польскіх скульптараў XVII—XVIII стст. Пры касцёле, пабудаваным на мяжы гэтых стагоддзяў, паводле гістарычных звестак, была павятовая школа, у якой вучыліся польскі пісьменнік — рэвалюцыянер-дэмакрат Уладзіслаў Сыракомля, беларускі фалькларыст-этнограф Ян Чачот, Адам Міцкевіч з братам Францішкам, а таксама іх малодшыя браты.

Фатаграфіі гэтага касцёла і збудаванняў пры ім ёсць ва ўсіх кнігах аб жыццёвым і творчым шляху Адама Міцкевіча.

Будынак гэты трэба захаваць і адкрыць у ім раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Ці ёсць на Навагрудчыне магчымасць стварыць такі музей?

Перш за ўсё, ёсць дзесяткі людзей, якія захоўваюць многа старажытных рэчаў, знойдзеных на Навагрудчыне. Вучні Шчорсаўскай сярэдняй школы знайшлі меч і грашовыя папяровыя знакі XVIII ст., некалькі манет часоў Пятра I. Выкладчыца гісторыі Шчорсаўскай сярэдняй школы Вера Іванаўна Сілкова з дапамогай настаўнікаў В. Петрыкевіча, Г. Буйвал стварыла невялікі школьны краязнаўчы музей. Думаецца, шчорсаўцы з ахвотай перадалі б частку экспанатаў у новы музей, калі б ён быў створаны. Пяць год ужо мясцовы настаўнік А. Годаў добраахвотна супрацоўнічае з ленінградскімі археолагамі, якія вядуць раскопкі на Навагрудчыне. Ёсць у яго вялікая калекцыя рэдкіх рэчаў. Ён іх з радасцю перадаў бы ў музей.

Асобную экспазіцыю музея маглі б скласці дакументы аб гераічнай дзейнасці падпольных партыйнай і камсамольскай арганізацый Навагрудчыны ў 30-я гады. І цяпер у Навагрудку жывуць былыя падпольшчыкі Е. Дзярчанская, В. Каляда і інш. На Навагрудчыне вядома імя студэнта Віленскага ўніверсітэта Аляксандра Вярбіцкага, які ў канцы 1932 г. наладзіў сувязь камсамольцаў-падпольшчыкаў Навагрудчыны з Максімам Танкам («Жэнькай») і г. д. Асобны раздзел неабходна прысвяціць слаўным воінам і партызанам Вялікай Айчыннай вайны.

У нас жывуць дзесяткі народных умельцаў, чые творы ўпрыгожылі б музей. Летам адбылася раённая выстаўка прыкладнога мастацтва, а некалькі месяцаў назад у сталічным Палацы культуры прафсаюзаў, на рэспубліканскай выстаўцы самадзейнага выяўленчага і прыкладнога мастацтва, творы навагрудскіх мастакоў П. Кузняцова, П. Каўцэвіча, графіка тав. Лецка, інкрустатараў А. Рогаля, В. Даражэя, А. Еўтуха заваявалі высокую ацэнку ў мінчан.

Якуб Колас у апошнія гады жыцця быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР ад Навагрудскай выбарчай акругі. Канстанцін Міхайлавіч прыязджаў у Навагрудак, сустракаўся з выбаршчыкамі. Пра гэта таксама павінны расказаць экспазіцыі музея.

Будзем спадзявацца, што Міністэрства культуры БССР станоўча вырашыць гэтае пытанне: касцёл як цікавы архітэктурны помнік будзе рэстаўрыраван і ў ім адкрыецца раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

**Д. ЗІНГЕР,**
**выкладчык Навагрудскага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі.**

# Адкуль такая абыякавасць?

Я вельмі люблю чытаць вершы, не толькі чытаць, але і завучваць напамяць лепшыя з паэтычных твораў, якія хвалююць сэрца, перадаюць думкі і пачуцці савецкіх людзей. Дрэнна толькі адно — у нашай вёсцы Каменка Чачэрскага раёна, ды і не толькі ў Каменцы, нельга знайсці ў продажы зборнікаў паэзіі. Кніг у нас выдаецца многа, у тым ліку і паэтычных. У мінулым годзе, напрыклад, як мне стала вядома з газет, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выпусціла новыя зборнікі вершаў П. Броўкі, Я. Пушчы, П. Панчанкі, двухтомнік М. Лужаніна і шмат іншых кніг беларускай паэзіі. Выйшлі зборнікі і нашай здольнай паэтычнай моладзі, з якой хочацца пазнаёміцца бліжэй, прачытаўшы іх першыя творы. І вельмі крыўдна, балюча, калі падыйдзеш да газетнага кіёска або зойдзеш у кніжны магазін, папросіш кнігу таго або іншага беларускага паэта, а табе адкажуць: «Зборнікаў паэзіі ў нас няма».

— А чаму іх няма? — запытаеш у работнікаў кнігагандлю

— А хто іх будзе браць! — пачуеш на дзіва абыякавы адказ.

Чаму ж так атрымліваецца, што кнігамі гандлююць людзі, якія самі не чытаюць і не любяць мастацкую літаратуру? Адкуль у іх такая абыякавасць да паэзіі, якую любіць і шануе наш народ?

Безумоўна, не ўсе такія прадаўцы кніг. Ёсць сярод іх нямала людзей, якія адданы сваёй справе, з любоўю адносяцца да кніг, да прапаганды мастацкай літаратуры сярод шырокай масы чытачоў. Аднак у нашым Чачэрскім раёне справа прапаганды мастацкай кнігі пастаўлена вельмі дрэнна. І жыхары вёскі Каменка, сярод якіх шмат аматараў паэзіі, спадзяюцца, што работнікі рэспубліканскіх і абласных кнігагандлёвых арганізацый паклапоцяцца аб тым, каб і ў нас можна было купіць любую кнігу, якая неабходна чытачу.

**П. ШЫНКАРЭНКА,**
Вёска Каменка
Чачэрскага раёна.

# ЮНАГА ГЛЕДАЧА ТРЭБА ЗАЦІКАВІЦЬ

Летам у Гомелі, у Парку культуры і адпачынку імя Луначарскага, быў адкрыты дзіцячы кінатэатр «Зорка». З месяца ў месяц ён не выконвае фінансавы план. Дзеці мала наведваюць свой кінатэатр. Прычына ў тым, што калектыў кінатэатра не мае цеснай сувязі са школамі і дзіцячымі садамі. Няма кінаарганізатараў, не створан педагагічны савет. Гэта трэба зрабіць як мага хутчэй, бо ў зоне абслугоўвання кінатэатра — восем школ. У кінатэатры можна было б праводзіць і зборы піянерскіх дружын, сустрэчы са знатнымі людзьмі рэспублікі і г. д.

Нічога не робіцца тут і па эстэтычнаму выхаванню дзяцей. Юныя гледачы не бачылі такіх фільмаў, як «Чайкоўскі», «Лебядзінае возера», «Беларускі канцэрт», «Народныя ўмельцы» і інш. Не наладжваюцца тэматычныя кінафестывалі, дэманстрацыі фільмаў па школьных праграмах, і яшчэ горш — ніхто не арганізоўвае абмеркаванне фільмаў.

Варта было б наладзіць справу так, каб дзеці былі ў сваім кінатэатры не толькі гледачамі, але і гаспадарамі. Школьнікі могуць самі прадаваць білеты, быць кантралёрамі, дэманстраваць фільмы. Тады кінатэатр будуць ахвотна наведваць юныя гледачы.

**В. ГРЫГОР'ЕЎ.**

Іван ШАМЯКІН

# Выгнанне блудніцы

> Пісьменнік Іван Шамякін скончыў новую п'есу аб сённяшніх людзях калгаснай вёскі, пастаноўку якой рыхтуе Тэатр імя Я. Коласа (Віцебск).
>
> Друкуем урывак з п'есы.

КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пакой на ферме. Гэта — пакой для адпачынку і чырвоны куток. На чыста пабеленых сценах: дошка паказчыкаў, на яе заносяцца крэйдай надоі за дзень; Дошка гонару малочнай фермы калгаса «Перамога»; дзве рэпрадукцыі — Левітан і Пластаў. На паліцы — дзесяткі два кніжак. На стале — часопісы і газеты. Праз вокны відаць сіласная вежа, частка цаглянага будынка кароўніка, за імі — дубовы гай, быццам апалены агнём: позняя восень. Імжыць дождж. Галя сядзіць за сталом і канспектуе падручнік. Маша з другога боку стала чытае часопіс. Перад дошкай паказчыкаў стаіць Насця. Іван робіць радыёправодку. За адчыненымі дзвярыма нехта грыміць бідонамі.

НАСЦЯ. Дзякуй богу, і ў мяне стала не горш, чым у людзей.

ГАЛЯ. Маці мая вачам сваім не верыць: у такі час павышаюцца надоі.

НАСЦЯ. Дзіва што! Ад такіх кармоў у вала малако пацячэ.

МАША *(адрываецца ад часопіса)*. А Леанід Андрэевіч нездаволены.

НАСЦЯ. Калі ён задаволіцца, ваш Леанід Андрэевіч?

ІВАН *(хмура)*. Задаволіцца.

МАША *(смяецца)*. О! Чулі голас з неба? Святы Іван адгукнуўся.

НАСЦЯ. Галя, ён табой хоць задаволены?

ГАЛЯ. А ну вас... Вам абы языком памянташыць.

МАША. А чаму не?.. А я люблю...

НАСЦЯ. Што ты любіш? Як пра мужыкоў гавораць? Табе яшчэ рана, дзетка, слухаць такія размовы. Выйдзеш замуж — вось тады... *(Пацягваецца, кладзецца на канапу)*. Дзяўчаткі, я падрамлю трошкі. Прыгоняць кароў — разбудзіце...

МАША. Зноў сварыліся з мужам?

НАСЦЯ. Не-е... Мірыліся. Калі пасварымся — тады я сплю ўсю ноч, як забітая.

МАША. Вось тут у апавяданні таксама муж з жонкай сварацца.

НАСЦЯ. Нашы сваркі ні адзін пісьменнік не апіша. Не прапусцяць.

ГАЛЯ. Гэта — перажытак.

МАША. Ты думаеш, пры камунізме людзі не будуць сварыцца?

ГАЛЯ *(пераканальна)*. Не будуць!.. Бо знікнуць сацыяльныя прычыны.

НАСЦЯ. А ў нас — якія прычыны? Мы проста так — ад гарачага кахання. Ён мяне да Івана раўнуе.

ІВАН. Хлусіш ты.

НАСЦЯ *(смяецца)*. Во дзівак! Не верыць.

МАША. Ён нікому не верыць.

ІВАН *(моцна стукае малатком па сцяне)*. Вашаму паганаму бабскаму роду не веру!

МАША *(пляскае ў далоні)*. Дзяўчаты! Вы чулі, што ён кажа? Не стукай так, усю крэйду абаб'еш. Толькі пабялілі.

ІВАН. Яшчэ раз пабеліце. Што вам рабіць? Распанелі тут. Культуру вам давай у кароўнік. Радыё, электрамыйку, душ... Што вы яшчэ патрабуеце? Тэлевізар? Хутка захочаце адны кнопкі націскаць...

МАША. І будзем націскаць! Але спачатку мы прыціснем цябе! Кансерватар ты няшчасны. *(Становіцца перад Іванам у ваяўнічай позе)*.

ІВАН *(загароджваецца малатком)*. Ну — ну...

МАША *(смяецца)*. Спалохаўся? Эх ты, салдат! Дрэнна цябе вучылі ў арміі. Не я тваім камандзірам была. Я навучыла б!

ІВАН. Бачылі мы такіх камандзіраў!

НАСЦЯ *(пазяхае, заплюшчвае вочы)*. Відаць, мала яму нарадаў давалі. Мой вунь кажа — штотыдня прыбіральню чысціў. Такі спрытны стаў!

МАША. А то — бач ты яго! Культура яму не падабаецца. Людзям не верыць. Жанчын называе бабамі. Мы з табой яшчэ на камсамольскім сходзе пагаворым! Раскажаш, дзе ты заразіўся ўсім гэтым...

ГАЛЯ. Не чапіся ты да яго, Маша. У чалавека, можа, кепскі настрой. На двары дождж.

ІВАН *(хмура)*. Ад дажджу настрой не псуецца. Хіба ў інтэлігентаў...

МАША. І ў дурняў.

ІВАН *(з крыўдай)*. Вельмі вы разумныя сталі! *(Стукае малатком яшчэ мацней)*.

ГАЛЯ *(з дакорам)*. Іван! Паважай працу іншых. Мы тваю паважаем.

ІВАН. Працу вы паважаеце... А чалавека...

МАША. Заплач. Цябе няма за што паважаць.

У дзверы заглядвае Дар'я Пятроўна.

ДАР'Я. Што гэта вы тут навалілiся на хлопца? Як табе не сорамна, Маша?

МАША. Дык то ж мы ў жарт, цётка Адарка. А ён не разумее.

ДАР'Я *(да Івана)*. А ты таксама нос не апускай. Трымай галаву вышэй. І па слова ў кішэню не лазь. А то гэтыя сарокі заклююць. Насця! Спіш? А бідоны брудныя.

НАСЦЯ *(садзіцца на канапе, праціраe вочы)*. Хай вам добра будзе, цётачка! Я іх так мыла.

ДАР'Я. Хадзі — пакажу, як ты іх мыла.

НАСЦЯ *(пазяхае)*. Паспіш тут, калі кожны — інспектар па якасці.

Выходзіць следам за Дар'яй. За дзвярыма грымяць бідоны.

МАША *(да Галі)*. Гэта ты ўсё хімію сваю зубрыш?

ГАЛЯ. Трэба работу ў інстытут адаслаць. Ужо напамінак прыслалі.

МАША. Мучыш ты сябе гэтай вучобай, Галя. Каб я замуж выйшла, ні за што не вучылася б. На ліха здалося!..

ІВАН *(прыкручвае разетку, у роце ў яго шурупы)*. Асабліва, калі за дырэктара школы.

МАША. Не шамкай, як бяззубы дзед. Табе слова не давалі. *(Пасля паўзы)*. Не, каб за такога вучонага — напэўна вучылася б, бо нельга: адстанеш — разлюбіць.

ГАЛЯ. Я гэтага не баюся.

ІВАН. Дарэмна.

МАША *(ляпае часопісам па стале)*. Гэты чалавек так і штурхае мяне на злачынства. Галя, бяру цябе ў сведкі: калі скалечу яго, пасведчыш, што ён сам вінаваты. Я — нервовая.

ГАЛЯ *(адрываецца ад сшытка, летуценна)*. Вучыцца, Маша, цікава. Калі з ахвотай, з любоўю вучышся. Быццам ты падымаешся ўсё вышэй і вышэй, і табе адкрываецца ўсё больш і больш прастору. І сама адчуваеш — як бы мацнеюць твае крылы для новага ўзлёту.

Іван употай любуецца на яе закаханымі вачамі.

МАША. А я пасля ніяк не аддыхаюся. Як пасля шматкіламетровага бегу.

ІВАН. Гэта ты за хлопцамі так набегалася, што не аддыхаешся.

МАША. Не бойся. За табой не пабягу.

ГАЛЯ. Я раней на карціны глядзела і магла толькі сказаць: гэта карціна прыгожая, на ёй людзі прыгожыя ці дрэвы... А паслухала лекцыі Васіля Раманавіча і быццам стала відушчай... Цяпер я душы тых людзей бачу, пачуцці разумею, страсці...

МАША. Дык то ж не навука. То і праўда для душы. Мастацтва! Гэта і я люблю.

ІВАН *(не адварочваецца ад сцяны, быццам сам сабе)*. На карціне ты душу бачыш....

ГАЛЯ *(ласкава)*. Ваня! Я і тваю душу бачу. Але мяне ні кропелькі не хвалюе, што ў ёй робіцца. Зразумей нарэшце, дзівак-чалавек. І не гавары больш намёкамі.

МАША *(смяецца)*. Атрымаў ясны адказ на ўсе свае сумненні? А цяпер памаўчы і падумай!

ГАЛЯ. А я хімію люблю. І фізіку. Можа, гэта і нядобра, што я не ведаю, што люблю больш. Да ўсяго мяне цягне.

Уваходзіць Яснікаў.

ЯСНІКАЎ. Добры вечар, дзяўчаты.

МАША. Добры вечар, Леанід Андрэевіч.

Іван адварачваецца і пачынае збіраць свой інструмент. Яснікаў здымае мокрую фуражку, дастае насоўку, выцірае шыю.

ГАЛЯ. Лёня! Адкуль у цябе такая брудная хустачка? Вазьмі маю.

Бярэ ў яго насоўку, дае яму чыстую.

ЯСНІКАЎ *(глядзіць на хустачку, быццам успамінае нешта)*. А-а! *(Выцірае лоб, потым акуляры)*. На эксперыментальнай пачаліся ацёлы. Толькі што ацялілася «Мара».

МАША. Ах! Не чакалі ж!

ГАЛЯ *(з трывогай)*. Што-небудзь не так, Лёня?

ЯСНІКАЎ. Не. Усё нармальна. Але цялё мне не падабаецца, чорт на яго. Нешта не тое, што я чакаў. Прызнак малапрадукцыйных продкаў.

ГАЛЯ. Можа, табе здалося?

ЯСНІКАЎ. Паглядзім. *(Да Галі)*. Ты магла б падзяжурыць сёння там? А то я не вельмі давяраю гэтаму маладому заатэхніку.

ГАЛЯ. Безумоўна, Лёня.

ДАР'Я *(з дзвярэй)*. Я падзяжуру. Навошта ёй? У мяне ў гэтай справе больш вопыту.

ЯСНІКАЎ *(згаджаецца не адразу, падумаўшы)*. Добра, Дар'я Пятроўна.

ДАР'Я. Я іх выпаіла, цёлачак гэтых. Я іх і ў свет пушчу. Каб добрымі каровамі сталі.

ЯСНІКАЎ *(да Галі)*. А раздой першацёлак прыдзецца ўзяць табе.

ГАЛЯ. Добра, Лёня.

ДАР'Я. Чаму адной ёй? Палавіну я сабе вазьму. Адной цяжка. А ў мінулы год пакуль вашых асперыменталак раздаіла...

ЯСНІКАЎ *(нецярпліва)*. Добра, добра. *(Да Машы)*. Сёння прыдуць практыкавацца дзевяцікласніцы. Будзеце вучыць іх масіраваць вымя. Але так, як я вучыў вас. Па ўсіх правілах. А то вы зноў усё па-свойму зробіце.

МАША. Слухаюся, Леанід Андрэевіч.

ЯСНІКАЎ *(да Івана)*. Таварыш манцёр, у дзяжурцы, на эксперыментальнай, не гарыць святло. Трэба тэрмінова адрамантаваць.

ІВАН *(нярэтліва)*. У мяне свой камандзір ёсць — брыгадзір.

ЯСНІКАЎ *(глядзіць на яго здзіўлена)*. Я не ведаю, як вас вучылі ў арміі. Але тут, у калгасе, мае просьбы ўсе выконваюць.

Выходзіць.

МАША *(б'е Івана па галаве часопісам)*. Дурань!

Ён позіркам шукае падтрымкі ў Дар'і Пятроўны. Але тая дакорліва ківае галавой і датыкаецца пальцам свайго ілба, што па сутнасці значыць тое ж самае, што сказала Маша.

ІВАН *(злосна)*. Многа тут знойдзецца камандзіраў!

ГАЛЯ. Ніхто табой не камандуе. Цябе просяць як чалавека.

ІВАН. Спраўлю я гэтае святло!

Дар'я Пятроўна і Маша выходзяць. Галя збірае кнігі і сшыткі, ставіць іх на паліцу. Іван скручвае каля дзвярэй дрот. Галя хоча выйсці. Іван загароджвае ёй дарогу.

ІВАН. Галя.

ГАЛЯ. Што табе?

ІВАН. Я хачу пагутарыць з табой.

ГАЛЯ. Пра што нам гутарыць? Няма пра што.

ІВАН. Раней было пра што.

ГАЛЯ. Калі гэта раней? Я нешта не помню, каб мы вельмі ўжо так гутарылі. Хіба ў маленстве яшчэ, калі за чубы цягалі адзін аднаго.

ІВАН. Ты два гады пісала мне.

ГАЛЯ. Адказвала на твае лісты, як суседу, школьнаму таварышу, салдату.

ІВАН. А як я пісаў табе?

ГАЛЯ. Ты пісаў многа ўсялякага глупства, на якое я не звяртала ўвагі.

ІВАН. Я спадзяваўся...

ГАЛЯ. Дрэнна. Хіба я табе адказала хоць адным словам на ўсе твае прызнанні? Ці хоць намёк які дала?

ІВАН. Не. Але мне здалося...

ГАЛЯ. Табе здавалася, што адзін ты ў цэлым свеце? А я сяджу тут, як сядзелі бабулі нашы сто год назад. Кумкі ды цёткі прыляпілі мне жаніха — суседа Івана, і я ўбок баюся глянуць, на вуліцу выйсці... Чакаю яго — не дачакаюся... Так ты думаў?...

ІВАН *(панура)*. Не думаў я так... *(Збянтэжана)*. Я кахаў цябе па-сапраўднаму, Галя.

ГАЛЯ *(даверліва, па-сяброўску)*. Іване, дзівак ты, дзівіла! Я разумею твае пачуцці. Усё разумею. Але навошта ты мне паўтараеш гэта? Я не кахаю цябе і ніколі не кахала. Не давала табе ніякіх абяцанняў. Я пакахала другога чалавека. Добрага, разумнага. Стала яго жонкай. І жыву шчаслівa. І гэтыя твае размовы, дамаганні... Навошта яны? Гэта проста непрыстойна. *(Сярдзіта)*. Гэта абражае мяне, калі хочаш ведаць. Можаш ты зразумець, нарэшце?

Іван стаіць, панурыўшы галаву, на твары яго адбіваецца душэўная барацьба. Галя намерваецца выйсці.

ГАЛЯ. Пусці мяне!

ІВАН *(узнімае галаву, кажа ціха, сумна)*. Не кахае ён цябе, твой Яснікаў.

ГАЛЯ. А гэта ўжо зусім не твайго розуму справа. Я сама бачу, хто мяне кахае...

ІВАН *(рашуча)*. Нічога ты не бачыш! Учора вунь там, за рэчкай, у лесе, ён з гэтай... музыканткай цалаваўся.

Галя ажно адхіснулася, міжволі прыціснула рукі да грудзей, быццам ёй заняло дыханне.

ГАЛЯ *(ціха)*. Хлусіш... *(Павышае голас, амаль да крыку)*. Хлусіш ты! *(Зноў амаль шэптам)*. Навошта табе спатрэбілася такая хлусня?

ІВАН. Я клятву магу даць.

ГАЛЯ *(хутка)*. Не, не! Не трэба твая клятва! Нічога мне не трэба! Хто цябе прасіў лезці ў чужое жыццё?

Іван паварочваецца і, панурыўшыся, выходзіць. Галя стаіць перад дзвярыма, як акамянелая.

Заслона.

Вокладкі кнігі «Прыгоды Патапкі» М. Калачынскага, якая выйшла ў Ленінградзе і Вільнюсе. Пераклад на рускую мову зрабілі А. Пракоф'еў і Ус. Раждзественскі, на літоўскую — А. Жукаўскас.

Шмат цікавага і новага можна знайсці і ў раздзеле «Нараджэнне эпасу народнага жыцця», у якім аўтар прасочвае развіццё некаторых буйных форм беларускай літаратуры, ставіць, праўда, у адным плане — у плане раскрыцця суадносін героя і масы, вялікіх сацыяльна-гістарычных тэндэнцый і індывідуальнага жыцця героя ў савецкім рамане наогул і ў беларускім рамане 20-х—30-х гадоў у прыватнасці — праблему рамана-эпапеі. На падставе сур'ёзнага аналізу Н. Перкін, на наш погляд, робіць вельмі слушныя вывады аб вартасцях і слабасцях раманаў «Сокі цаліны» Ц. Гартнага, «Сын» Р. Мурашкі, «Праз гады» П. Галавача, а таксама аб буйных творах К. Чорнага, Я. Коласа і г. д. Ён бачыць слабасць некаторых твораў або асобных іх вобразаў у неарганічным спалучэнні сацыяльна-гістарычных тэндэнцый з індывідуальным жыццём герояў, у тым, што ў іх, напрыклад, у рамане Р. Мурашкі «Сын», «мастацкая ідэя не заўсёды цалкам вырастала з жыццёвага вопыту, асабістага назірання і «ўжывання» ў тэму. Агульная канцэпцыя, зразуметая ў галоўных сваіх пунктах па навуковых і гісторыяграфічных крыніцах, іншы раз вельмі паспешна і лёгка «прывязвалася» да пісьменніцкіх домыслаў, што прыводзіла да схематызму» (стар. 281).

Змястоўнымі, цікавымі разважаннямі, вывадамі з'яўляюцца і апошнія раздзелы кнігі «Прысуд уласніцтву», дзе прасочваецца развіццё адной з важнейшых тэм беларускай літаратуры таго часу, і раздзел «Праўда эпохі і сучаснік», прысвечаны праблеме станоўчага героя. Глыбокія па думцы, насычаныя канкрэтным фактычным матэрыялам, гэтыя раздзелы падпарадкаваны той жа задачы, што і ўся кніга, — дапамагчы чытачу правільна зразумець многія з'явы літаратуры, яе спецыфіку, зразумець складаны і супярэчлівы працэс яе станаўлення як літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Несумненнай вартасцю кнігі Н. Перкіна з'яўляецца тое, што аўтару ў выніку стараннага вывучэння багатай літаратурнай спадчыны 20-х—30-х гадоў удалося пранікнуць у сутнасць літаратурнага працэсу, паказаць яго асаблівасці, павароты, вылучыць важнейшае, істотнае.

Свае думкі і вывады аўтар у большасці выпадкаў абгрунтоўвае дастаткова поўна, спасылаючыся часам і на факты развіцця братніх савецкіх літаратур, а таксама і літаратуры зарубежнай. Мы гаворым — у большасці выпадкаў, і гэта сапраўды так. Але не заўсёды. Не ўсе палажэнні кнігі бачацца дастаткова пераканаўчымі, і гэта дае нам права зрабіць некаторыя больш або менш істотныя заўвагі іншага характару.

Перш за ўсё — аб самім замысле кнігі і, натуральна, яе кампазіцыі. Пасля прачытання кнігі застаецца ўсё-такі не зусім ясным, якімі меркаваннямі кіраваўся аўтар, выбіраючы для даследавання такія храналагічныя рамкі — 20-я—30-я гады. Характарам пастаўленых у кнізе праблем? Відаць, не. Большасць з іх захоўваюць сваю спецыфічнасць толькі ў адносінах да першай паловы разглядаемага перыяду. А тыя магістральныя праблемы, якія ставіць аўтар у другой палове кнігі — праблема жанра рамана, праблема станоўчага героя і інш., — можна і, бадай, больш мэтазгодна вырашаць на матэрыяле ўсёй літаратуры савецкага перыяду.

Іначай кажучы, нам думаецца, што храналагічныя рамкі даследавання вызначаны некалькі адвольна, і гэта ў пэўнай меры адбіваецца на характары кнігі. Імкненне да «ўсеабдымнасці» не заўсёды апраўдвае сябе, нярэдка распыляе ўвагу даследчыка і прыводзіць да таго, што некаторыя вельмі важныя пытанні, сур'ёзна пастаўленыя ў першай палове работы, мы маем на ўвазе тэндэнцыі, або лініі развіцця савецкай паэзіі, потым вырашаюцца вельмі бегла або і зусім губляюцца, адцясняюцца іншымі праблемамі.

Логіка фактаў, характар літаратурнага развіцця пераконвае нас, што ў гэтых храналагічных межах, якія вызначыў Н. Перкін, яўна вырысоўваюцца ўсё ж два асноўныя, своеасаблівыя перыяды, два этапы развіцця савецкай беларускай літаратуры з уласцівымі ім заканамернасцямі. Адзін, праўда, не зусім аднародны, але ўсё ж аб'яднаны спецыфічнымі супярэчнасцямі станаўлення савецкай літаратуры, выпрацоўкі ў ёй адзінага творчага метаду, — ад нараджэння савецкай літаратуры да 1932—34 гадоў, да часу аб'яднання, кансалідацыі яе сіл у адным Саюзе пісьменнікаў з яснай і пэўнай праграмай. І другі перыяд, што ахоплівае ў асноўным 30-я гады, перыяд, які бясспрэчна розніца ад папярэдняга характарам і жыццёва-грамадскіх і літаратурных праблем.

І думаецца, што кніга несумненна выйграла б, калі б аўтар сканцэнтраваў сваю ўвагу на першым перыядзе, якому, уласна, у кнізе і адводзіцца галоўнае месца і спецыфічныя праблемы якога вырашаюцца найбольш поўна і глыбока. Што ж датычыцца вось гэтай спецыфікі літаратурнага працэсу ў 30-я гады, то, трэба сказаць, яна за некаторымі выключэннямі, нагляданнямі прыватнага характару раскрываецца значна слабей. Больш таго, з прычыны такой будовы кнігі, дзе ў першай яе палове, у раздзелах «На пераломе», «Барацьба за новую літаратуру», «Паэзія рэвалюцыйнага пафасу», аўтар канцэнтруе ўвагу на разнастайных складаных пытаннях, супярэчнасцях літаратурнага развіцця ідэйна-эстэтычнага і жанрава-стылявога характару, а размову аб 30-х гадах пераводзіць у план асобных праблем, ствараецца ўражанне, што ў 30-я гады ўвогуле паступова знікаюць усе супярэчнасці, што іменна тут і дасягае наша літаратура свайго вышэйшага ўзроўню. На самой жа справе было не так. Супярэчнасці мастацкага развіцця мелі месца і тут. Іншая справа, што яны набылі другі, адменны характар у параўнанні з 20-мі гадамі. Мастацкая творчасць беларускіх пісьменнікаў у 30-я гады набыла большую ідэйную яснасць, мэтанакіраванасць, аднак пытанні жанрава-стылявых і іншых спецыфічных для мастацкай літаратуры асаблівасцей у гэты час былі вельмі актуальнымі, паўставалі вельмі востра. І ў кнізе Н. Перкіна хацелася б бачыць больш выразную характарыстыку гэтага перыяду ў яго цэласнасці, з усёй сукупнасцю яго спецыфічных праблем, а не толькі пастаноўку асобных з гэтых праблем, якія мы адзначалі вышэй.

Чытаючы кнігу, добра разумееш намеры аўтара спалучыць у сваім даследаванні характарыстыку літаратурнага працэсу і глыбокую пастаноўку важнейшых праблем сацыялістычнага рэалізму. Але трэба адзначыць, што гэта яму ўдаецца не заўсёды аднолькава добра. І невыпадкова. Ёсць нешта супярэчлівае, паўтараем, у самой задуме кнігі. Яе загаловак — «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры» — настройвае чытача на тое, што ў кнізе будзе прасочаны літаратурны працэс у яго паўнаце і ўсеабдымнасці, у яго супярэчнасцях і галоўных тэндэнцыях. І кніга сапраўды цалкам адпавядае гэтаму загалоўку, калі размова ідзе аб 20-х гадах. Але 30-я гады ўжо асвятляюцца іначай. Тут ужо больш адпавядае выкананню падзагаловак, і літаратура характарызуецца ў плане асобных праблем, а адчуванне паўнаты літаратурнага развіцця, працэсу амаль губляецца. Прычым, гэтыя асобныя праблемы вырашаюцца не аднолькава на усіх жанрах літаратуры. Калі ў першай палове кнігі размова ішла пераважна аб паэтычных жанрах, то ў другой — аўтар гаворыць пераважна аб прозе, дакладней, аб яе буйных формах і часткова драматургіі, а паэтычныя жанры адыходзяць на задні план і ў выніку сапраўды ствараецца, карыстаючыся тэрмінам Н. Перкіна, пэўны «перакос» у паказе суадносін розных жанраў у літаратуры, ствараецца ўражанне, што 30-я гады найбольш характарызуюцца развіццём буйных празаічных жанраў, а паэзіі належыць ужо ў параўнанні з 20-мі гадамі, прынамсі, другое месца, хоць на самой справе наўрад ці гэта было так.

Такія ж заўвагі можа выклікаць і асвятленне тагачаснага літаратурнага працэсу. Чаму, напрыклад, аўтар у асобны раздзел выдзяляе тэму выкрыцця ўласніцтва («Прысуд уласніцтву»), а не іншую або не шэраг такіх жа важнейшых тэм і праблем нашай літаратуры і г. д?

Выклікае некаторыя пярэчанні і тое, як паказвае аўтар узаемадзеянне паміж творчасцю пісьменнікаў так званага старэйшага пакалення, якія прыйшлі ў савецкую літаратуру, маючы ўжо вялікі творчы вопыт, і пісьменнікаў малодшых. Н. Перкін вельмі справядліва падкрэслівае, як дабратворна ўплывалі старэйшыя пісьменнікі на маладых, дапамагалі сваім вопытам выпрацаваць правільны падыход да адлюстравання новага жыцця. Але, думаецца, што гэты працэс узаемадзеяння паміж «старымі» і «маладымі» быў адным з важных стымулаў росту не толькі апошніх, але і першых. Калі ідзе размова аб станаўленні сацыялістычнага светаразумення, ды і ўвогуле аб станаўленні старэйшых пісьменнікаў на пазіцыі сацыялістычнага рэалізму, на наш погляд, немалаважную ролю адыгрываў іх кантакт з маладымі. Прыкладаў нямала можна знайсці і ў Зм. Бядулі (зборнік «Буралом») і нават у Я. Купалы (верш «Арлянятам» і інш.). Думаецца, зусім неправамерна ўсе слабасці маладой савецкай паэзіі прыпісваць толькі «маладым», а ўсе вялікія дасягненні — толькі «старэйшым». Такі падыход яўна аднабаковы, а таму і няправільны, ужо не гаворачы аб тым, што ўвогуле такое «размежаванне» на старых і маладых з'яўляецца, бадай, яшчэ непераадоленай «традыцыяй», якая па інерцыі ідзе ад 20-х гадоў, і наўрад ці варта яго зараз падкрэсліваць. Факты гавораць аб тым, што многія слабасці, супярэчнасці маладой савецкай літаратуры былі ўласцівы і старэйшым пісьменнікам і ў 20-я, і ў 30-я гады. Яны, гэтыя слабасці, не зніклі адразу самі сабой, як толькі старэйшыя пісьменнікі авалодалі новым светапоглядам. Больш правільна было б паказаць, як і пісьменнікі старэйшага пакалення, і малодшыя разам шукалі гэтых новых вобразаў, форм і г. д. у паэзіі. А ў кнізе Н. Перкіна нават у тэрміналогіі можна знайсці гэтае імкненне разрозніваць старых і маладых. Тое, што ў вершах маладых звычайна называецца рыторыкай, аўтар у дачыненні да старэйшых перадае праз эўфемізмы, накшталт «пафаснае сцвярджэнне агульнай ідэі» і г. д. Наўрад ці патрэбна прыбягаць да такой эўфемістычнай мовы.

Дарэчы, аб мове даследавання. Кніга Н. Перкіна напісана ў цэлым добрай мовай, стыль яе сапраўды адпавядае характару навуковага сур'ёзнага даследавання. Тым не менш, усё ж хочацца адзначыць і пэўную яго цяжкавагавасць, празмернае часам імкненне аўтара да складаных, мы б сказалі, залішне ўскладнёных моўных канструкцый, абстрактных паняццяў і г. д. Вось прыклады: «...Купала асабліва быў чулы як паэт да маральнай атмасферы новай калгаснай вёскі» (стар. 157), «У Купалы нібы заўсёды бярэ верх філасофскае абагульненне, экспрэсія чалавечых пачуццяў, кульмінацыя праблемнасці» (стар. 211), «У другім выпадку часта адстае бытавы чалавек, індывідуальнасць, рэальная і жывая сфера дзейнасці» (стар. 381). Нярэдка ў кнізе сустрэнем няўдалыя калькі з рускай мовы: «Гэтым у значнай меры кульгае раман Мурашкі «Сын» (стар. 281), «Цалкам вінаваты перад Ганнай, Рыгор учыняе ёй скандал» і г. д. (стар. 283).

Такія вось мудрагельствы, вядома, не ўпрыгожваюць стыль кнігі, не кажучы ўжо аб тым, што яны і не вызначаюцца яснасцю думкі. Не ўпрыгожваюць такую сур'ёзную кнігу і даволі частыя арфаграфічныя і іншыя памылкі. Але гэта ўжо віна выдавецтва.

І апошняе, аб чым хочацца сказаць. Аўтар даследуе ў сваёй кнізе тыя факты і з'явы нашай літаратуры, якія ўжо сталі гісторыяй. Але, як правільна ён сам адзначае заключнымі радкамі кнігі, гэта — «гісторыя жывая, ... якая голасна пераклікаецца з нашай сучаснасцю». Так, гэта пачатак таго тыповага працэсу, што адбываецца і ў нашы дні. І таму, на наш погляд, аўтару неабходна было не ў апошнюю чаргу неяк падкрэсліць, расказаць у сваёй кнізе, якія ідэйна-эстэтычныя з'явы тых часоў асабліва павучальныя для сённяшняй літаратуры. Інакш кажучы, у такой вялікай, грунтоўнай і сур'ёзнай рабоце хацелася б бачыць не проста аналіз літаратуры 20-х — 30-х гадоў, але і ўказанні аўтара на тое, як пераклікаюцца асноўныя тэндэнцыі яе развіцця з фактамі літаратуры, тым больш, што кніга мае не звычайны аглядна-гістарычны, а праблемны характар, і ў радзе выпадкаў, напрыклад, у размове аб сучасным рамане-эпапеі і інш., такія супастаўленні, паралелі, параўнанні проста самі напрошваюцца. І аўтар дарэмна не робіць іх.

Такая пераклічка з сённяшнім днём нашай літаратуры надала б рабоце яшчэ больш дзейсны характар, зрабіла б яе вывады больш актыўнымі ў сэнсе ўздзеяння на творчасць нашых сучасных пісьменнікаў.

**М. ЛАЗАРУК.**

